АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА | РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ

# Голас Радзімы

30 жніўня 2000 года
Цана 85 рублёў

№ 35 (2697)

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі
Выдаецца з 6 красавіка 1955 года


## НОВЫХ ПЕРАМОГ, АЛІМПІЙЦЫ!





*У алімпійскую дэлегацыю Беларусі ўваходзіць звыш 140 спартсменаў. У Сіднэй едуць 16 прызёраў Алімпійскіх гульняў, 32 чэмпіёны свету, 16 чэмпіёнаў Еўропы, 31 заслужаны майстар спорту.*

*Упершыню атлеты Беларусі выступілі на Алімпійскіх гульнях у Хельсінкі ў 1952 годзе. З таго часу з кожнай алімпіяды яны варталіся з перамогамі.*

*НА ЗДЫМКАХ: 17 жніўня Нацыянальная алімпійская каманда Беларусі перад ад'ездам у Сіднэй усклала кветкі да помніка на плошчы Перамогі ў Мінску.*

*Фота Аляксандра ТАЛОЧКІ.*

## КОРАТКА

◆ **Загадам Прэзідэнта экс-прэм'ер Беларусі Сяргей ЛІНГ назначаны пастаянным прадстаўніком нашай краіны ў ААН.**

◆ **Старшыня Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына абвясціла вынікі рэгістрацыі ініцыятыўных груп па збору подпісаў для вылучэння кандыдатаў у дэпутаты.** Было пададзена 488 пакетаў дакументаў. Зарэгістравана 475 ініцыятыўных груп. Сярод палітычных партый лідзіруе Партыя камуністаў Беларуская. Члены партыі будуць збіраць подпісы за 49 кандыдатаў. На другім месцы з вялікім адрывам БСДП ("Народная Грамада") — 16 груп. Затым, па ўбыванню, размясціліся Камуністычная партыя Беларусі, Рэспубліканская партыя, Аграрная партыя, Рэспубліканская партыя працы і справядлівасці, Сацыял-дэмакратычная партыя народнай згоды, Ліберальна-дэмакратычная партыя, Партыя працы, Сацыяльна-спартыўная партыя. Лідзія Ярмошына адзначыла, што згодна з новым заканадаўствам заклікі да байкоту выбараў не караюцца. Але байкоту, відаць, не атрымаецца, таму што ў працэс выбараў ужо ўключыліся ўплывовыя палітыкі, якія будуць абараняць свае інтарэсы.

## СТЫХІЯ

У выхадныя ў выніку моцнага ветру і навальніцы на тэрыторыі рэспублікі пацярпела 50 населеных пунктаў, загінулі 3 чалавекі. Аказаліся пашкоджанымі 29 жылых дамоў, 1 аб'ект сацкультбыту, 6 вытворчых памяшканняў.

Найбольш пацярпелі Іўеўскі, Воранаўскі, Слонімскі раёны Гродзеншчыны; Брэсцкі, Пружанскі, Жабінкаўскі раёны на Брэстчыне і Барысаўскі раён Мінскай вобласці. Усяго па рэспубліцы было абясточана 95 населеных пунктаў, 1 бальніца, 2 дашкольныя ўстановы, 10 вытворчых памяшканняў.



БелТА.

СПЕКТ ПРАБЛЕМЫ

## АБІТУРЫЕНТ-2000

**Скончыліся ўступныя экзамены ў 43 навучальныя ўстановы нашай краіны. На 24 205 месцаў сёлета прэтэндавала 65 014 абітурыентаў.**

Конкурс, як і ў папярэднія гады, быў даволі высокім — у сярэднім 2,7 чалавека на месца. У некаторых ВНУ ён значна перавышаў гэтую лічбу — напрыклад, у Мінскім медінстытуце і універсітэце культуры — 3,9, у Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь — 11,8 чалавека на месца.

Сёлета ўпершыню на ўступных экзаменах была выкарыстана 6-бальная сістэма адзнак, якая цалкам сябе апраўдала і выклікала задавальненне як экзаменатараў, так і саміх абітурыентаў.

За ходам уступных экзаменаў, як і ў папярэднія гады, назірала спецыяльная дзяржаўная камісія. І, як адзначылі яе прадстаўнікі, гэта дало свой плён: з 27 тысяч званкоў, што паступілі па спецыяльных тэлефонах даверу ў Адміністрацыю Прэзідэнта і Міністэрства адукацыі, 23 тысячы насілі кансультацыйны характар і толькі 77 тычыліся заніжаных адзнак і 5 — мяркуемых парушэнняў правіл прыёму.

Падчас сёлетняй уступнай кампаніі ў атрыманні хабару абвінавачаны адзін выкладчык і некалькі абітурыентаў — у махлярстве (у асноўным гэта здача экзаменаў падстаўнымі асобамі).

Але сапраўдную трывогу выклікае іншае. Па-першае, сітуацыя з медалістамі: каля

Заканчэнне на 2-й стар.

РАДАВОД

## ЗНОЎ ДОМА

— Эх, Коля! — усклікнуў, вітаючыся са мной, дзядзька Валодзя, брат маёй маці. — Колькі жыцця прайшло! — і сцішана дадаў: — Ды колькі ўжо яго засталося?!

Сустрэліся мы ў хаце майго бацькі ў Скідзелі. Маці чакала мяне: я пазваніў ёй, што вырву на вечар пару гадзін з камандзіроўкі, каб пабачыцца. А тут надышоў дзядзька Валодзя. Стол ужо быў накрыты. Мы, утраіх, пажадалі адзін аднаму здароўя, і, як звычайна бывае падчас незапланаваных сустрэч, пайшла шчырая гаворка. Перш за ўсё пра тое, што найбольш баліць.

— Паміраем паціху, — неяк асуджана, прымірэнча сказаў дзядзька Валодзя. — Памёр Міша, меншы з братоў; колькі часу мінула, а сэрца па ім ные. Не так даўно Івана пахавалі. Што зробіш? Прырода бярэ сваё.

Міхаіл, малодшы з дзяцей майго дзеда, быў самым грамадска актыўным. У апошнія гады ён, выкладчык матэматыкі, раскрыў свае краязнаўчыя здольнасці. Надрукаваў нямала артыкулаў не толькі пра гісторыю Скідзеля, яго людзей, але і пра цудоўную прыроду, пра збядненне, запусценне старасвецкага парку, прыгараднага бору, рэчак.

Мне быў зразумелы жаль, з якім гаварыў дзядзька Валодзя пра тых, хто так любіў сваю зямлю, ды ўжо сышоў з яе. Згадваў ён і вядомых людзей.

— А што значыць, Коля, для нас Міхась Васілёк! Які паэт быў! Як добранька апісаў ён яе, нашу зямельку — лясы, палі, зімы, вёсны... Плакаць хочацца ад замілавання, калі чытаеш яго вершы.

Прыемна было чуць такія словы пра Міхася Васілька, які нарадзіўся ў вёсцы Баброўка за сем кіламетраў ад Скідзеля, быў сябрам нашай (дзедавай) сям'і. Я нагадаў дзядзьку Валодзю дзядзьку Міхася Васілька — Макара Краўцова, верш якога "Мы выйдзем шчыльнымі радамі" стаў гімнам у Заходняй Беларусі, яго выконвалі паўсюдна, з ім ішлі на барыкады.



Фота Наталлі АБЛАЖЭЙ.

Заканчэнне на 4-й стар.

NEWS FROM BELARUS * БЕЛОРУССКИЕ НОВОСТИ * BIALORUSKIE WIADOMOSCI * NOTICIAS DE BELARUS

ЯМАЛ—ЕЎРОПА



Пачалася пракладка першага ўчастка кабелю валаконна-аптычнай лініі сувязі газаправода Ямал — Еўропа. Кабельная лінія на тэрыторыі Беларусі праходзіць па Мінскай, Віцебскай, Брэсцкай і Гродзенскай абласцях. Яе працягласць 710 кіламетраў.

Ва ўрачыстасцях з нагоды пачатку пракладкі кабелю прынялі ўдзел намеснік прэм'ер-міністра Валерый Кокараў, прадстаўнікі прадпрыемстваў "Белтрансгаз", "Белтэлекам", "Газтэлекам", "Газпрам" і шэрагу кампаній Германіі, Італіі, Польшчы.

НА ЗДЫМКУ: укладка першых метраў кабелю валаконна-аптычнай сувязі.

**БелТА.**

ЧЫТАЧ ЦІКАВІЦЦА

# ЯК МОЖНА АТРЫМАЦЬ ГРАМАДЗЯНСТВА БЕЛАРУСІ?

**Тлумачэнні дае намеснік начальніка Упраўлення пашпартна-візавай службы МУС Беларусі А. ШАШКОЎ:**

— У адпаведнасці з артыкулам 2 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь", які ўступіў у сілу 12.11.1991 года, грамадзянамі Беларусі з'яўляюцца асобы, якія пастаянна пражывалі на тэрыторыі рэспублікі на ўказаную дату (за выключэннем замежных грамадзян і асоб без грамадзянства, якія пражываюць у Беларусі па адпаведных відах на жыхарства), або якія набылі беларускае грамадзянства ва ўстаноўленым парадку.

Падставамі для прыёму ў грамадзянства Рэспублікі Беларусь з'яўляюцца:

* *абавязацельства заяўніка выконваць і паважаць Канстытуцыю і законы Рэспублікі Беларусь;*
* *веданне дзяржаўнай мовы Рэспублікі Беларусь у межах, неабходных для зносін;*
* *пастаяннае пражыванне на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь на працягу апошніх 7 гадоў;*
* *наяўнасць законнай на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь крыніцы існавання;*
* *адсутнасць грамадзянства іншай дзяржавы.*

Разам з тым, умова 7-гадовага тэрміну пастаяннага пражывання на тэрыторыі Беларусі пры вырашэнні пытання аб прыёме ў грамадзянства Беларусі не распаўсюджваецца на:

* *асоб, якія нарадзіліся за межамі сучаснай тэрыторыі Рэспублікі Беларусь і з'яўляюцца нашчадкамі (кроўныя сваякі па прамой лініі: дзеці, унукі, праўнукі) асоб, што пражываюць у Рэспубліцы Беларусь да ўступлення ў сілу Закона Рэспублікі Беларусь "Аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь" і сталі грамадзянамі Рэспублікі Беларусь у адпаведнасці з пунктам 1 артыкула 2 Закону;*
* *беларусаў, а таксама асоб, што ідэнтыфікуюць сябе як беларусы і іх дзяцей, унукаў, праўнукаў, што нарадзіліся за межамі сучаснай тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.*

Указаны тэрмін таксама можа быць скарочаны або не прымяняцца наогул да асоб, якія маюць грамадзянства былога СССР і высокія дасягненні ў галіне навукі, тэхнікі, культуры і спорту або валодаюць прафесіяй ці кваліфікацыяй, якія выклікаюць цікавасць для Рэспублікі Беларусь.

Акрамя таго, асобы, якія пастаянна пражываюць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, але выехалі за яе межы да ўвядзення ў дзеянне Закону аб грамадзянстве, а таксама жонка або муж гэтых асоб і іх нашчадкі маюць права на атрыманне беларускага грамадзянства ў парадку рэгістрацыі, што прадугледжвае спрошчаную працэдуру разгляду дакументаў і кароткія тэрміны іх разгляду (да 2 месяцаў).

Прыём дакументаў па пытаннях грамадзянства ажыццяўляецца органамі ўнутраных спраў у адносінах да асоб, што пражываюць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, або дыпламатычнымі прадстаўніцтвамі, консульскімі ўстановамі Беларусі за мяжой у адносінах да асоб, што знаходзяцца за мяжой.

Адначасова інфармуем, што органы ўнутраных спраў, прымаючы рашэнне аб дазволе замежным грамадзянам і асобам без грамадзянства на пастаяннае жыхарства ў Беларусі з наступнай прапіскаю, кіруюцца Законам Рэспублікі Беларусь "Аб прававым становішчы замежных грамадзян і асоб без грамадзянства ў Рэспубліцы Беларусь", які ўступіў у сілу з 01.08.1993 года, а таксама Законам Рэспублікі Беларусь "Аб іміграцыі", які ўступіў у сілу з 27.07.1999 года. Згодна з названымі заканадаўчымі актамі дазвол на пастаяннае жыхарства ў рэспубліцы замежным грамадзянам і асобам без грамадзянства выдаецца, калі яны:

* *знаходзяцца ў блізкім сваяцтве або ўзялі шлюб з грамадзянамі Рэспублікі Беларусь;*
* *узялі шлюб з замежным грамадзянінам або асобай без грамадзянства, якая пастаянна пражывае ў Рэспубліцы Беларусь;*
* *маюць выключныя здольнасці і талент, а таксама з'яўляюцца высокакваліфікаванымі спецыялістамі, у якіх мае патрэбу Рэспубліка Беларусь;*
* *асобы без грамадзянства, якія маюць падставы для набыцця грамадзянства Рэспублікі Беларусь.*

Акрамя таго, органы ўнутраных спраў Беларусі ў адпаведнасці з пастановамі ўрада Рэспублікі Беларусь ад 21.11.95 года № 634 і ад 06.06.96 года № 371 выдаюць дазвол на пастаяннае жыхарства замежным грамадзянам і асобам без грамадзянства, якія прыбываюць у Рэспубліку Беларусь для працы ў населеных пунктах, размешчаных у зонах наступнага адсялення, з правам на адсяленне, а таксама ў зоне пражывання з перыядычным радыяцыйным кантролем раёнаў, якія пацярпелі ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, у выніку станоўчага рашэння аблвыканкама аб працаўладкаванні гэтых грамадзян і асоб, прынятага па хадайніцтву суб'екта гаспадарання.

Замежныя грамадзяне, якія хадайнічаюць аб атрыманні дазволу на пастаяннае жыхарства ў Рэспубліцы Беларусь, абавязаны аформіць ва ўстаноўленым парадку выезд на пастаяннае жыхарства ў Рэспубліку Беларусь, а таксама мець жылплошчу для пражывання на тэрыторыі рэспублікі. З адпаведнымі хадайніцтвамі па пытанню атрымання віду на жыхарства або набыцця грамадзянства замежныя грамадзяне і асобы без грамадзянства, якія знаходзяцца на тэрыторыі дзяржавы, абавязаны звяртацца ў падраздзяленне пашпартна-візавай службы органа ўнутраных спраў па мяркуемаму месцу жыхарства.

**Падрыхтавала Алена СПАСЮК.**

АСПЕКТ ПРАБЛЕМЫ

## АБІТУРЫЕНТ-2000

Пачатак на 1-й стар.

40 працэнтаў з іх не вытрымалі конкурсу, а 15 працэнтаў увогуле здалі экзамены на "двойкі". Па-другое, па дублікатах сёлета паступала адразу 100 чалавек. Хутчэй за ўсё, яны падавалі дакументы ў розныя ВНУ, што ў Беларусі не дазваляецца.

Па-трэцяе, недастатковая распрацаванасць парадку паступлення сельскіх жыхароў па мэтаваму набору выклікала шматлікія факты перапрапіскі гараджан да вясковых сваякоў, пасля чаго для паступлення ў запаветны інстытут ім трэба было здаць экзамены хаця б на "тройкі".

Тым не менш, уступныя экзамены вытрымалі 63 працэнты абітурыентаў, што сведчыць пра даволі высокі ўзровень іх ведаў. І, што асабліва радуе, значна палепшыліся іх веды па роднай мове і літаратуры.

Як і раней, беларускія ВНУ карыстаюцца вялікай папулярнасцю сярод прадстаўнікоў беларускай дыяспары. Па словах намесніка старшыні галоўнага ўпраўлення вышэйшай адукацыі Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь Браніслава Дашкевіча, работа тут вядзецца ў трох напрамках.

Напрыклад, з Польшчай і Літвой заключана адпаведная дамова, і беларуская камісія прымае ўступныя экзамены ў абітурыентаў непасрэдна ў Беластоку і Вільнюсе. Штогод у беларускія ВНУ могуць быць залічаны 40 беларусаў з Польшчы і 25 — з Літвы.

Другі шлях — хадайніцтва дыяспары на адрас Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь з просьбай прыняць на вучобу канкрэтных абітурыентаў. Яны залічваюцца па-за конкурсам.

І трэці шлях — паступленне на агульнай аснове. Усё гэта тычыцца бясплатнай адукацыі. Акрамя таго, можна паступаць на платнай аснове і ў недзяржаўныя ВНУ.

Па прыблізных падліках, студэнтамі беларускіх інстытутаў сталі ўжо каля 100 чалавек з беларускіх дыяспар розных краін свету.

**Нэлі ПРЫВАЛАВА.**

АРМІЯ



Верталётны парк Ваенна-Паветраных Сіл Беларусі прадстаўлены вінтакрылымі машынамі канструктарскага бюро Міля. У ліку тых, хто лятае на іх, і пілоты 276-й баявой верталётнай базы, якой камандуе палкоўнік Валерый Жэбраў. Нягледзячы на свой юнацкі ўзрост, часць — 1 чэрвеня ёй споўнілася 18 гадоў — мае багаты баявы вопыт. Зараз у склад 276-й баявой верталётнай базы ўваходзіць тры эскадрыллі. Адна з іх — вучэбна-баявая. Тут праходзяць падрыхтоўку маладыя лётчыкі, вучацца лятаць курсанты авіяцыйнага факультэта Ваеннай акадэміі.

НА ЗДЫМКУ: запраўка верталёта.

**БелТА.**

НА СЛЫХУ

**Судовая калегія Вярхоўнага суда па крымінальных справах зноў накіравала справу М. Чыгіра ў Мінскі гарадскі суд для азнаямлення абароны з пратакольнымі запісамі працэсу.**

Рашэнне Вярхоўнага суда для М. Чыгіра досыць прынцыповае. Нагадаем, што ён быў прыгавораны ў маі гэтага года да 3 гадоў пазбаўлення волі з адтэрміноўкай прыгавора на 2 гады.

Да таго ж М. Чыгір балаціруецца ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу. У тым выпадку, калі б Вярхоўны суд пацвердзіў прыгавор, ён уступіў бы ў сілу, М. Чыгір пазбавіўся б шанцаў быць зарэгістраваным у дэпутаты.

Аднак пакуль ён не губляе аптымізму. М. Чыгір заявіў журналістам, што спадзяецца на справядлівыя выбары, і, дарэчы, выказаў надзею на ўдзел у парламенцкіх выбарах як мага большай колькасці незалежных кандыдатаў.



БелТА.

ХТО ДАПАМАГАЕ БЕЖАНЦАМ?

**Бежанцы. Незайздросны лёс. Апынуцца ў такім становішчы можа кожны. Як ім дапамагчы? Мы, звычайныя людзі, можам даць ім толькі сваю дабрыню і спагаду. А ці ёсць зацікаўленыя дзяржаўныя, грамадскія арганізацыі?**

**На Беларусі існуе некалькі спецыяльных арганізацый па дапамозе бежанцам. У адну з іх, службу па кансультаванню бежанцаў пры беларускім руху медработнікаў, мы звярнуліся па каментарыі. Нам адказала юрыст гэтай арганізацыі Усціна КУПРЭЙЧЫК.**

*— Усціна, якое, на ваш погляд, становішча бежанцаў на Беларусі сёння?*

— У тых, хто мае статус бежанца, не ўзнікае ніякіх праблем, бо яны прыраўноўваюцца па правах да грамадзян краіны.

*— А як быць тым, хто не мае статуса?*

— Тут усё складаней, бо гэтыя людзі лічацца асобамі, якія не пражываюць пастаянна на тэрыторыі Беларусі, хаця некаторыя знаходзяцца тут больш за 10 гадоў.

*— А як жа дзеці? Ці наведваюць яны школу?*

— Фактычна дзеці ходзяць у школу, але афіцыйна на гэта трэба дазвол старшыні гарвыканкама. Зараз у нас разглядаецца такая сітуацыя: дзеці незарэгістраваных бежанцаў скончылі 9 класаў, але не могуць атрымаць атэстат, бо ён выдаецца толькі грамадзянам Беларусі. Мы накіравалі ад іх імя запыт у Міністэрства адукацыі, але атрымалі адказ "не па тэме". У ім раілі, каб гэтыя дзеці звярталіся ў Камітэт па міграцыі пры Міністэрстве працы і атрымлівалі афіцыйны статус. Але гэтая сітуацыя патрабуе больш канкрэтнага вырашэння.

*— Усціна, з бежанцамі якіх краін вам даводзіцца сутыкацца?*

— Часцей за ўсё гэта былыя жыхары Афганістана, ёсць бежанцы з Ірака, Ірана, Пакістана, Расіі (Чэчні)...

**Глеб ЛАБАДЗЕНКА.**

ТРАГЕДЫІ

**На борце расійскай падлодкі "Курск", якая затанула ў Баранцавым моры, былі два беларусы. Абодва служылі ў другім адсеку падлодкі. Капітан-лейтэнант Аляксандр Садкоў — камандзір баявой часці № 7 — беларус па нацыянальнасці, жыў у Амурскай вобласці. Капітан II рангу 31-гадовы Сяргей Дудко на "Курску" служыў старшым памочнікам камандзіра. Ён родам з горада Пінска Брэсцкай вобласці, скончыў Ленінградскае ваенна-марское вучылішча.**



## СЭРЦА Ў НАДЗЕЙНЫХ РУКАХ





Дваццаць пяць гадоў спаўняецца сёлета Рэспубліканскаму хірургічнаму цэнтру лячэння складаных парушэнняў рытму сэрца і электракардыястымуляцый. Цэнтр разлічаны на 50 ложкаў, і праводзіцца тут да 500 аперацый у год па імплантацыі кардыястымулятараў і звыш 100 аперацый пры тахікардыях. Усе аперацыі мала траўматычныя і высокаэфектыўныя.

НА ЗДЫМКАХ: аперацыю на сэрцы праводзіць кіраўнік цэнтра, доктар медыцынскіх навук Уладзімір МАКЕЕЎ; ідзе аперацыя.

**Фота Мікалая ПЯТРОВА.**

## ТОЛЬКІ ФАКТ

**"АТЛАС КУЛЬТУРЫ"**. Стварэнне "Атласа культуры" — адно з заданняў, уключаных у дзяржаўную праграму "Функцыяніраванне і развіццё культуры Рэспублікі Беларусь да 2005 года". Ствараецца ён для таго, каб зафіксаваць і захаваць шматграннасць унікальнай народнай творчасці. "Атлас культуры" будзе складацца з трох частак: карта нашай краіны з умоўнымі абазначэннямі ўсіх культурных рэгіёнаў і цэнтраў рэспублікі, каментарыі да яе, а таксама кампакт-дыск. "Атлас культуры" ствараецца спецыялістамі Беларускага інстытута праблем культуры ў адпаведнасці з рэкамендацыямі ЮНЕСКА аб захаванні унікальных нематэрыяльных помнікаў асобных народаў перад тварам глабалізацыі.

**ДЭФІЦЫТ ЁДУ ЗАПОЎНІЦЬ СОЛЬ.** Спынены дыскусіі аб карыстанні ёдаванай солі. Навукова абгрунтавана і даказана практыкай, як неабходная яна ў рэгіёнах нашай краіны, што адчуваюць дэфіцыт ёду. Таму прынята рашэнне з новага года выкарыстоўваць толькі ёдаваную соль. Як паведамілі ў ААТ "Мазырсоль", уся кухонная соль будзе абагачацца ёдам калію і толькі пасля гэтага пачне паступаць беларускаму спажыўцу. Па ўстаноўленых нарматывах, у адным кілаграме звычайнай солі павінна быць каля 40 міліграмаў ёду.

## СПОРТ

Новы галоўны трэнер беларускай зборнай па футболу Эдуард Малафееў назваў састаў нашай зборнай, якая 2 верасня правядзе сваю першую сустрэчу адборачнага турніру чэмпіянату свету 2002 года. На матч з камандай Уэльса на мінскім стадыёне "Дынама" выйдуць у асноўным знаёмыя балельшчыкам іграці, якія выступаюць за розныя замежныя клубы. Сярод іх — Валянцін Бялькевіч і Аляксандр Хацкевіч з кіеўскага "Дынама", Сяргей Гурэнка з італьянскай "Ромы", Андрэй Лаўрык і Максім Рамашчанка адпаведна з маскоўскіх "Лакаматыва" і "Дынама". Аднак настаўнік зборнай на падрыхтоўчы збор выклікаў і некалькі маладых футбалістаў з мясцовых каманд. Сярод іх дынамаўскі варатар Юрый Афанасенка, палявыя іграці Вадзім Скрыпчанка (БАТЭ), Андрэй Мілеўскі ("Шахцёр"), Вячаслаў Герашчанка і Раман Васілюк ("Славія").

Як паведамілі ў Беларускай федэрацыі футбола, наша каманда сабралася ў Мінску 28 жніўня і адправілася на трэніровачны збор у "Стайкі".

Нагадаем: у нашай падгрупе гуляюць таксама зборныя Арменіі, Нарвегіі, Польшчы і Украіны. Сёлета беларусы правядуць яшчэ дзве сустрэчы — з палякамі ў гасцях (7 кастрычніка) і з армянамі на сваім полі (11 кастрычніка). Астатнія матчы адбудуцца ў наступным годзе.

**Вячаслаў ДУТАЎ**, БелТА.

## ЗДАРЭННІ



Каля 150 тон каляровых і чорных металаў на суму 66 мільёнаў рублёў канфіскавалі з пачатку года супрацоўнікі органаў унутраных спраў Віцебскай вобласці на нелегальных скупных пунктах.

НА ЗДЫМКУ: старшы оперупаўнаважаны Кастрычніцкага РАУС горада Віцебска Аляксандр ШАРАНДА робіць вопіс канфіскаванага металу.

**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**

## ПАМЯЦЬ

● **Іосіф ЗАЯЦ.**

# СЛЁЗЫ Ў ГРАНІЦЕ

...Вырашылі зайсці ў адзін дом, каб папрасіць кавалак хлеба. Гаспадары аказаліся вельмі гасціннымі. Іонку прапанавалі паехаць у вёску да іх знаёмых. Яго ўсынавілі сяляне Іван і Ганна Куліковы, якія жылі ў вёсцы Захаркіна Пскоўскай вобласці. Іонка стаў сапраўдным селянінам — пасвіў і запрагаў коней (не хапала толькі сілы зацягнуць рамяні хамута), пілаваў і калоў дровы, саджаў і акучваў бульбу. У пачатку 1944 года лінія фронту праходзіла каля Невеля, гул баёў дакаціўся і да Захаркіна. Гітлераўцы пачалі вывозіць мясцовых жыхароў у Германію.

Аднойчы ў вёску прыехалі немцы з перакладчыкамі і загадалі ўсім збірацца ў дарогу. Раніцай Іонку з жыхарамі вёскі пагналі з абозам нямецкай тылавой часці на захад...

Адгрымела вайна. Разам з маці і сястрой Іонка Чынгелаў паехаў у Балгарыю, у Плоўдзіў, дзе скончыў гімназію. Вышэйшую адукацыю атрымаў у Маскве ў электратэхнічным інстытуце сувязі. Прымаў удзел у распрацоўцы першага генеральнага плана развіцця сувязі ў сваёй краіне. На працягу 10 гадоў быў старшынёй ЦК прафсаюза работнікаў сувязі і інфармацыі Балгарыі. Працаваў у Савеце Эканамічнай Узаемадапамогі, доўга жыў у Маскве. Затым зноў вярнуўся ў Балгарыю.

Юрыю Галавіну пасля доўгіх і небяспечных спраў удалося вырвацца з нямецкага тылу.

Здарылася так, што Юлій Герэ стаў партызанскім разведчыкам, хадзіў на заданні. Толькі 8 ліпеня 1944 года яму ўдалося паехаць у Маскву.

...Больш паловы дзяцей і падлеткаў, якія прыехалі на адпачынак, засталіся ў Наваельні. Фашыстаў убачылі праз тыдзень пасля пачатку вайны. Дзеці сядзелі ў сталовай, калі дзверы раптам адчыніліся і на парозе з'явіліся немцы з аўтаматамі ў руках. Усіх дзяцей сабралі ў пустой пакінутай хаце, дзе і арганізавалі свайго роду прытулак. Прадуктаў адпускалася роўна столькі, каб дзеці не памерлі з голаду. На шчасце, побач з дзецьмі былі добрыя, спагадлівыя людзі, якія, чым толькі маглі, дапамагалі ім выжыць. Гэта загадчыца прытулку Лідзія Ульянаўская і яе муж Барыс, выхавальнікі Зінаіда Кушнір, Агрыпіна Назарава, Яўгенія Адамчык. Загадчыца прытулку падтрымлівала цесную сувязь з мясцовымі жыхарамі Валянцінай Сянютай, Лідзіяй Аляксеевай. Яны збіралі абутак, вопратку, ежу і тайна перадавалі дзецям.

Дапамагалі дзецям і партызаны. Начальнік штаба атрада "Кастрычніцкі" Аркадзь Рэдзька накіраваў у прытулак свайго аднавяскоўца Юльяна Брычкоўскага, каб той даведаўся пра іх лёс. Юльян зрабіў усё, як належыць, а потым з Лукой Маліноўскім вывез ноччу ў лес італьянку Палет Глюкозіо, чэшку Уласту Рэняк, польку Казіміру Александрук і іншых дзяцей. Пад выглядам батрачак-пастушак іх схавалі на хутарах у Канстанціна Рэдзькі, Юльяна Брычкоўскага і Лукі Маліноўскага. У беларускіх сем'ях палюбілі гэтых простых і вельмі ласкавых дзяўчынак. Па заданню А. Рэдзькі яны збіралі звесткі аб размяшчэнні фашыстаў у Наваельні, аб варожых эшалонах, што рухаліся праз станцыю. Дапамагалі ім сястра Уласты Драгаміра, Ціна Астрова і іншыя дзеці.

Драгаміра і Ціна прыходзілі на хутар Радзюкі. А ў гэты час Казіміра, Уласта і Палет прабіраліся ў Наваельню, трымалі пад "прыцэлам" мясцовы гарнізон, шашу Навагрудак — Наваельня, па якой бесперапынна рухаліся фашысцкія часці.



Дзяўчынкі былі надзвычай кемлівыя і асцярожныя.

У красавіку 1943 года Наваельненскі прытулак расфарміравалі, а дзяцей перавезлі ў Дзятлава. Умовы жыцця — невыносныя. Голад, хваробы. Дзеці згаралі, як свечкі, па 2—3 чалавекі за ноч. Пачаліся эпідэміі шкарлятыны, тыфу. Толькі на дзятлаўскіх могілках пахавана 76 дзяцей.

Аб'яднанне Дзятлаўскага і Наваельненскага прытулкаў яшчэ больш ускладніла становішча. Увесь клопат узяла на сябе загадчыца прытулку, настаўніца 406-й школы Ленінграда Валянціна Кеп. З выхавальніцамі Аляксандрай Рудэнка, Клаўдзіяй Фраловай, Кацярынай Пуршынавай і іншымі яна збірала вопратку і ежу. На дапамогу ім прыйшлі мясцовыя медыкі Н. Гулецкі, Л. Дзеніч, П. Якушава.

Вясною 1943 года ў прытулак была прыслана выхавальніца Марта з Вільнюса. Яна данесла, што дзве дзяўчынкі, Валя Герэ і Роза Авербах, — яўрэйкі. Іх схапілі і адправілі ў жандармерыю Навагрудка, дзе расстралялі.

З Дзятлава вясной 1944 года дзяцей тэрмінова перавезлі ў вёску Вензавец. Тут яны сталі заложнікамі карнай брыгады здрадніка радзімы Камінскага. Знаходжанне дзяцей у лясніцтве служыла добрым прыкрыццём гарнізона ад удараў партызан. Тут дзяўчынкі і хлопчыкі пражылі тры самыя цяжкія месяцы.

...Фронт набліжаўся. І чым хутчэй падыходзіла Чырвоная Армія, тым больш лютавалі фашысты і паліцаі, прадчуваючы хуткі час расплаты. Напалоханых пагрозамі, замучаных хваробамі і голадам дзяцей з Вензавецкага прытулку ў тэрміновым парадку павезлі на чыгуначную станцыю Наваельня. Да эшалона прычапілі некалькі платформ, нагружаных ваеннай тэхнікай, аўтапакрышкамі, накрадзеным дабром. А ў сярэдзіне састава, як прыкрыццё, — савецкія дзеці. Іх загналі ў таварныя вагоны. Чыгунка была забіта немцамі, якія адступалі, таму дзяцей больш двух месяцаў вазілі па Польшчы, Чэхаславакіі, Венгрыі.

"Эшалон смерці" часта бамбіла авіяцыя. Пры кожным такім налёце фашысты адразу адкрывалі дзверы і выганялі дзяцей.

Потым дзеці папалі ў далёкае сяло Чарвянёва Лукачоўскага раёна. Мацярынскім клопатам акружылі тут іх Паляна Рэйстар, Алена Даўганіч і іншыя.

Восенню 1944 года Чырвоная Армія ўвайшла ў Карпаты, вызваліла сяло Чарвянёва і дзяцей, у іх ліку былі і двое з Наваельненскага інтэрнацыянальнага лагера — Палет Глюкозіо і Валодзя Марсін.

Палет трапіла ў Някрасаўскі дзіцячы дом, а напярэдадні Дня Перамогі сустрэлася з маці ў Маскве. Працягвала вучобу ў Іванаўскай інтэршколе. Атрымала вышэйшую адукацыю. Вярнулася на радзіму, у Балгарыю, выкладала рускую мову, якая стала для яе роднай.

Валодзя Марсін з групай малодшых дзяцей быў накіраваны ў Галыньскі дзіцячы дом. Адтуль па парадзе выхавальнікаў паслаў пісьмо ў Маскву на стары адрас. Маці пераехала ў іншае месца, але аднойчы зайшла праведаць былую суседку і атрымала пісьмо. Хутка сабралася яна ў дарогу. Валодзя не адразу пазнаў гэтую нізенькую, сціпла апранутую жанчыну. Але як толькі яна ласкава прыціснула яго да сябе і заплакала, зразумеў: "Мама!".

Закончыўшы дзесяцігодку, Валодзя паступіў у Маскоўскі інстытут нафтахімічнай і газавай прамысловасці. Атрымаў дыплом інжынера-механіка, загадваў аддзелам аднаго з маскоўскіх навукова-даследчых інстытутаў.

Уласта Рэняк вярнулася ў Прагу і працавала інжынерам у праектным інстытуце, а яе сястра Драгаміра стала кінарэжысёрам.

Лёс раскідаў хлопцаў і дзяўчат па розных кутках свету. У маі 1985 года яны сабраліся на Дзятлаўшчыне, каб зноў прайсці па сцяжынках свайго апаленага вайной дзяцінства, успомніць таварышаў, якія загінулі ў час ваеннага ліхалецця.

Як і тады, перад вайной, Наваельня сустрэла гасцей пахам сосен, вясёлымі птушынымі спевамі. Ля мясцовай бальніцы, у будынку якой некалі размяшчаўся Міжнародны піянерскі лагер, сабраліся амаль усе жыхары гарадскога пасёлка.

На будынку наваельненскай бальніцы ва ўрачыстай абстаноўцы была адкрыта мемарыяльная дошка ў гонар выхаванцаў піянерскага лагера, якія загінулі ў суровыя гады Вялікай Айчыннай вайны. Потым госці пасадзілі ў Наваельні алею маладых дрэўцаў у памяць аб дзецях прытулку.

**Заканчэнне.**
**Пачатак у №№ 33, 34.**

РАДАВОД

# ЗНОЎ ДОМА

— Так, так, — пацвердзіў дзядзька Валодзя. — І наш Пятро загінуў у змаганні за волю Беларусі.

Пятро Сяўрук — старэйшы брат і маёй маці, і дзядзькі Валодзі. Паэт грамадска-сацыяльнага кірунку, ён у вершы "Міхасю Васільку" пісаў у 1926 годзе:

З грудзей рвецца крык
пратэсту
Разам з заклікам к змаганню,
Бо душа баліць і рвецца
Ад балючага жадання
Лепшай долі.

— Як мы хацелі гэтай лепшай долі! — гаварыў цяпер брат паэта. — Як мы хацелі, каб у нашай старонцы не балявалі паны. А яны вунь што вытваралі. Нашу хату траслі паліцыянты, яны неаднойчы арыштоўвалі Пятра, мучылі яго ў пастарунку. А раз прыйшлі на вобыск — і Васілёк у нас быў. Пачалі здекавацца і з Пятра, і з Міхася. Казалі: у гнаі, мужыкі, капайцеся, не лезьце туды, куды вам, хамулам, не належыць.

Пятро Сяўрук, хворы на сухоты, скатаваны паліцыянтамі, памёр у 1929. Кніга Васілька "Шум баравы" канфіскавана ўладамі.

— А хіба і Васілёк, і Пятро сталі б такімі паэтамі, каб не любілі Беларусь, яе прыроду, якія далі ім і пачуццё вялікае, і словы выказаць гэтае пачуццё?

Так, і я помню Скідлянку і Спушчанку паўнаводнымі, у буйной зеляніне. Колькі расло над імі чаромхі, бэзу, розных магутных дрэў! За паўстагоддзя ўсё спляжана. Амаль голыя сталі берагі, высечаны дрэвы і кусты. Амаль да вады разараная зямля. Глыбокая і рыбная, Скідлянка абмялела, у ёй нават печкура рэдка ўбачыш. Плаціну каля млына з'еў час, а людзі даканалі яе. Колькі ўжо ставілася пытанне: плаціну трэба зрабіць новую, яна дасць жыццё рацэ, узніме ўзровень вады ў ёй. Ды ўлады гэтага не чуюць.

А парк? Помнік прыроды, ён амаль знішчаны. Забудавалі яго дамамі, хлявамі, скляпамі, змардавалі дарогамі і дарожкамі. Многія дрэвы, кусты ссечаны, зламаны. Шмат знішчаецца і нічога не аднаўляецца. І за гэта мясцовыя ўлады таксама заслугоўваюць толькі папроку.

Маці, якая да гэтага слухала моўчкі, уставіла сваё слова:

— Ліха ведае, што чаўпецца. І чаму ніхто не бароніць ні раку, ні бор, ні птушку?

— Эх, Надзя! — расхваляваўся дзядзька Валодзя. — Успомні, як было. Паспрабуй пры тых панах зламаць дрэўца — бяды не абярэшся. Штрафу ўлепяць, засаромяць. А цяпер? Валасатыя ды кудлатыя ламаюць усё, што захочуць. А хто ім хоць слова скажа? Страцілі людзі сумленне, няма ў іх той павагі да кожнай траўкі, што была ў іх дзядоў. Бо адвучылі людзей разумець прыгажосць, шанаваць, берагчы яе.

Слухаў я свайго дзядзьку, глядзеў на яго і радаваўся ды дзівіўся, што ў чалавека захавалася гэтулькі любві да роднага краю.

— Ой, колькі мы нацярпеліся, шукаючы тую свабоду, тое шчасце, — гаварыла маці, падразаючы ў міску памідораў.

— А колькі загінула добрых людзей... Ці помніш, Валодзя, як Васілёк папараць-кветку шукаў?

— Чаму ж не? Ён сам расказваў у нашай хаце. Пайшоў у поўнач на Купалле ў лес, каб кветку папараці знайсці. Шукаў-шукаў, ды так і не знайшоў.

Маці патлумачыла:

— Я нядаўна прачытала, што ёсць жучкі, якія свецяцца. Трапляюцца яны на папараці на Купалле, у поўнач. Людзі, якія тое бачылі, і гаварылі, што адшукалі папараць-кветку. На самай жа справе няма той кветкі. І я ў сваім жыцці не дачакаюся яе.

— Вось так, — падхапіў дзядзька Валодзя. — Шукае чалавек лепшай долі, а яна, як тая кветка папараці, толькі ў чалавечай фантазіі... Азірніся на наша жыццё — яно ў вечным пошуку той кветкі шчасця. А яе ніхто з простых людзей ніколі так і не знайшоў. Колькі скідзельскіх людзей катавалі ў царскіх турмах, здзекаваліся з іх польскія ўлады. А які лёс тых, што самі пайшлі ў сярэдзіне трыццатых гадоў у Саветы?! Ніхто не ведае, дзе яны, відаць, склалі галовы ў Курапатах. А немцы? Восем нашых хлопцаў-падпольшчыкаў павесілі, а колькі ў Нямеччыне замучылі. Шмат хто на фронце ды ў партызанах загінуў.

— І ўсё марна, не знайшлі таго, чаго шукалі. Я свайму Івану казала: згінеш ні за нюх табакі. Так і выйшла. Не дабілі польскія паліцыянты, то немцы паўжывога спалілі ў канцлагеры. А цяпер што? — І яна махнула рукой.

— Во-во, — пагадзіўся мамін брат. — І каму цяпер баліць галава за тую ж праўду, за людзей, за прыроду? Тых, у каго балела б, знішчылі, а ў новага пакалення зусім іншы інтарэс. Яно не разумее, пра што пяюць птушкі. Яно не ведае, як гэта соладка — даглядаць зямлю, араць яе, сеяць, жаць. Я помню, як нашы мужыкі, калі з'яўляліся ўсходы, апраналіся ў святочнае, ішлі ў поле, урачыста аглядалі яго.

— Ой, Валодзька, адчапіся. Ты хочаш, каб цяпер нехта так рабіў?

— Альбо такое, — гаварыў ён, захоплены ўспамінамі. — Лес высякалі толькі зімой, калі дрэва замёрзлае, "мёртвае", тады з яго можна рабіць усё, што трэба. І хата будзе — як звон, прастаіць век, і табурэткі ды стала хопіць чалавеку да скону. А цяпер сякуць і вясной, і летам, а з такой сасны рэчы гніюць, ой, як хутка.

Для мяне бор на ўскрайку Скідзеля — лес дзяцінства. Мы, малыя, часта прападалі ў ім, гулялі, збіралі грыбы. Асабліва шмат расло зялёнак. Кошыкамі цягалі іх, салілі. А якое было ў бары паветра! Нават з Варшавы, Беластока прыязджалі сюды адпачываць. За апошнія дзесяцігоддзі бор знішчаецца. Пазваніў мне Сяргей Мазалеўскі — аднакласнік, сябра. Закончыў службу ў марфлоце капітанам другога рангу, паўсвета пабачыў. А тут голас дрыжыць: "Коля, знішчаюць наш бор, хочуць праз яго пракласці шашу. Ды што яны — здурэлі? Ну пакладзіце дарогу крыху збоку. Дык не!"

А каму галава баліць за той бор, акрамя такіх, як Сяргей? Але мала іх засталося. Затое сярод пракладчыкаў дарог, меліяратараў — дык, можа, і наогул няма.

* * *

Так зноў пабыў я дома. Было і радасна, і сумна. Радасна, што наведаў радзіму, што засталіся яшчэ такія людзі, як дзядзька Валодзя. Чалавек без высокай адукацыі, ён вялікі патрыёт свайго краю, усяго беларускага, выдатна разумее, як важна для нашага народа захаваць сваю зямлю, сваю прыроду, свой нацыянальны гонар.

Здарыўся ў яго жыцці такі характэрны эпізод. Падчас службы ў польскім войску належала пазначыць у дакументах нацыянальнасць. Афіцэры не тое што настойліва, а прымусова-нахабна стараліся пераканаць беларускіх хлопцаў запісацца палякамі. З цэлага палка не паддаліся чалавек пяцьдзесят. Тады прыдумалі іншы ход: запішыцеся палякамі сёння, у дзень нараджэння пана палкоўніка, каб зрабіць яму прыемна. І з тых пяцідзесяці зноў адмовіліся толькі дзядзька Валодзя і яшчэ адзін салдат-беларус. Пачуўшы такое, я сказаў:

— Мусіць, і сёння дзеці, унукі тых салдат, што зрабілі палкоўніку прыемна, так і ходзяць у паляках.

Такое стаўленне дзядзькі Валодзі да роднага, нацыянальнага — аснова яго павагі да самога сябе. Каб яна, такая павага, была ў кожнага, то на Беларусі ніхто не нашкодзіў бы нацыянальнаму адраджэнню. А гэта так важна сёння — не нашкодзіць.

**Мікола ДЗЕЛЯНКОЎСКІ.**

Пачатак на 1-й стар.

ГАЛЕРЭЯ МАЙСТРОЎ



● Аляксандр ХІТРОЎ, БелТА.

Аплікацыі з саломкі, выкананыя рукамі Марыі СУЕТЫ з Гродна (на здымку), карыстаюцца папулярнасцю ў нашай рэспубліцы і за яе межамі.

БЕЛАРУСЫ Ў ЛІТВЕ

# ЗДАБЫТКІ ДЗЯРЖАЎНАГА ШЛЯХУ

## БЕЛАРУСКІ ПАТРЫЯТЫЧНЫ РУХ У ЛІТВЕ XX СТАГОДДЗЯ

● **Леў МІРАЧЫЦКІ.**

На пасяджэнні праўлення Беларускага Навуковага Таварыства, якое прайшло 13 мая таго ж года, Іван Луцкевіч зрабіў афіцыйную заяву, што ён перадае таварыству плён сваёй шматгадовай працы — архіў, бібліятэку, гістарычныя беларускія памяткі, калекцыю ікон, партрэтаў, нумізматычных рэліквій і іншыя каштоўнасці. Гадавік БНТ у сваім выданні за 1933 год адзначаў, што гэты надзвычай каштоўны з навуковага боку дар быў прыняты таварыствам з глыбокай удзячнасцю і стаў асновай Беларускага музея ў Вільні.

У другой палове 50-х мне пашчасціла блізка пазнаёміцца і пасябраваць з былым супрацоўнікам музея Пётрам Сергіевічам (1900—1984), таленавітым творцам-мастаком, жывапісцам, графікам, заслужаным дзеячам мастацтваў Літвы. Гэты абаяльны, інтэлігентны чалавек духоўна фарміраваўся пад уплывам нацыянальна-вызваленчага руху Заходняй Беларусі. Сірочы лёс прывёў яго ў Вільню. Тут, у прытулку імя Я. Матвілы, некаторы час вучыўся, а затым уладкаваўся ў дарожны аддзел Віленскай чыгункі і адначасова наведваў Вольную школу малюнка і жывапісу літоўскага мастака А. Варнаса. Дзякуючы сваім здольнасцям да малявання і дапамозе прафесара Фердынанда Рушчыца (1870—1936), у 1920 годзе Пётра Сергіевіч быў залічаны вольным слухачом на мастацкі факультэт Віленскага універсітэта. Дэкан факультэта прафесар Рушчыц вёў са студэнтамі заняткі па жывапісе, пейзажы. Майстэрства малюнка і партрэта дасканаліў прафесар Б. Кубіцкі, вучань І. Рэпіна.

У 1924 годзе Пётра Сергіевіч паступае ў Кракаўскую мастацкую акадэмію, дзе на працягу года вучыцца ў прафесара Панкевіча. Пасля зноў вяртаецца ў Вільню і працягвае вучобу на мастацкім факультэце ў майстэрні прафесара Людаміра Слянь-дзіньскага.

У 1928 годзе Пётра Сергіевіч скончыў Віленскі універсітэт імя Стэфана Баторыя. Пачалася самастойная праца. Невычэрпнай крыніцай для творчасці мастака зрабіліся ўражанні маленства, вясковыя людзі і краявіды родных мясцін. У размове ён не раз згадваў, што Богінскае возера, над якім раскінулася родная вёска, "так накарміла мае дзіцячыя вочы, што і цяпер да возера маю вялікую цягу". У пасляваеннай Польшчы і Вільні, якая належала тады да адроджанай дзяржавы па Версальскай умове, простаму чалавеку вельмі цяжка было атрымаць адукацыю і выбіцца ў людзі. Таму многія сяляне на Віленшчыне не верылі, што можна сур'ёзна прысвяціць сябе мастацтву. "Суседзі глядзелі на мяне са шкадаваннем, кажучы, от, маўляў, не маючы сваёй зямлі, забаўляецца рысаваннем". Не верылі, што, малюючы, можна зарабіць кавалак хлеба. Сваякі не раілі маляваць. Цётка ўсё казала: "Каб ты навучыўся якому-небудзь рамяству, дык і мне нешта зрабіў бы патрэбнае". Толькі маці казала: "Трымайся, сынку, ужо аднаго". Словы матулі сталі для сына пуцяводнымі.

Тэматыка ранніх твораў Пётры Сергіевіча звязана з асяроддзем, з якога выйшаў сам ("Пастушок", "Ткачыха", "Каваль", "Дрывасек", "Студэнт", "Цясляр", "Сялянка"). Мастак стварае цэлую галерэю партрэтаў і малюнкаў, эцюдаў і карцін з жыцця вёскі і незабыўнай каханай Вільні. Яе ён не забываў ніколі.

Сваіх землякоў, якія сустракаліся яму ў жыцці, ён паказвае з глыбокім псіхалагізмам, перадаючы сцэны іх працы, святочнага адпачынку. У карціне "Жыццё", напрыклад, узнаўляецца старонка з гісторыі заходнебеларускага сялянства, якое ў пошуках заробку накіроўвалася ў іншыя краіны.

У 1962 годзе, калі ў Мінску была наладжана выстава твораў Пётры Сергіевіча, газета "Звязда", як бы падагульняючы грамадскую думку, пісала: "Гераізмам, рамантыкай барацьбы і нязломнасцю народнага духу вее ад вялікіх палотнаў "Кастусь Каліноўскі сярод паўстанцаў" і "Кастусь Каліноўскі і Урублеўскі на аглядзе паўстанцаў". Амаль сотні гадоў аддзяляюць нас ад таго часу, але калі глядзім на дзве карціны, то адразу ўяўляюцца і зацятыя бойкі ў лясах, і пажары маёнткаў магнатаў, і трагічны канец паўстання". Гэтая вельмі слушная ацэнка — яшчэ адно сведчанне шырокай папулярнасці твораў Пётры Сергіевіча на гістарычную тэматыку, якія ў якасці рэпрадукцый пачалі змяшчацца на старонках школьных падручнікаў і ў многіх навуковых працах даследчыкаў мінулага Літвы, Беларусі, Польшчы, Расійскай Федэрацыі і іншых замежных краін.

Шмат увагі ў сваёй творчасці мастак удзяліў купалаўскай тэме. Многія яго карціны з гэтага цыкла сталі хрэстаматыйнымі. Напрыклад, карціны "А хто там ідзе?", "А ты, сіраціна, жыві..." і іншыя экспануюцца ў Літаратурным музеі Янкі Купалы ў Мінску. Глыбокай ідэйнай і псіхалагічнай напоўненасцю ўражваюць і іншыя яго карціны і малюнкі па матывах паэзіі вялікага беларускага песняра ("Гусляр", "Ворыва", "На сенажаці", "Званар").

1 лістапада 1984 года перастала біцца сэрца мастака. З глыбокім жалем і смуткам праводзіла яго ў апошнюю дарогу культурная грамадскасць Літвы і Беларусі.

У кастрычніку 1991 года на віленскіх могілках Панерай пахавана і старэйшая беларуская пісьменніца Зоська Верас, жыццё якой пачалося яшчэ ў мінулым стагоддзі — 30 верасня 1892 года. Газета "Звязда" 12 кастрычніка змясціла хвалюючы некралог: "Вільня пабяднела для беларусаў. У ёй не стала Зоські Верас... А нам усім здавалася, што мудры лёс падараваў ёй вечнасць. Спецыяльна пакінуў беларусам гэтага памятлівага экскурсавода ў эпоху нашага мінулага рамантычнага адраджэння. У часы, калі нацыянальная свядомасць была страшэнным крыміналам, яе маленькая "лясная хатка" ў Вільні прыцягвала як неафіцыяльны музей беларушчыны. І сцежка ў яго не зарастала".

Заканчэнне.
Пачатак у № № 31, 33, 34.



ХРЫСЦІЯНСКАЯ СТАРОНКА «ЖЫЦЦЁ І ВЕРА»

## ПРЫЗНАННЕ



Міжнароднае даследчае аддзяленне амерыканскага біяграфічнага інстытута прыняло рашэнне аб прызнанні ксяндза-магістра Чырвонага касцёла імя святых Сымона і Алены Уладзіслава ЗАВАЛЬНЮКА (на здымку) Чалавекам года. Ён удастоены гэтага ганаровага тытула за істотны ўклад у развіццё грамадства.

Уладзіслаў Завальнюк вядомы як прэзідэнт Хрысціянскага таварыства міласэрнасці, у вучоным асяродку яго ведаюць як акадэміка Міжнароднай акадэміі экалогіі, навуковага супрацоўніка Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Ф. Скарыны. Веруючым ён знаёмы і як перакладчык на беларускую мову хрысціянскай літаратуры.

**Фота Яўгена Казюлі.**

## МАРЫЯЛОГІЯ

**ЛЕСНЯНСКАЯ (ЛЕСНІНСКАЯ) ІКОНА ПРАСВЯТОЙ БАГАРОДЗІЦЫ.** Паводле гістарычных сведчанняў, гэтая цудадзейная ікона была знойдзена ў беларускай вёсцы Лесна Гродзенскай губерні Бяла-Падляскага павета.

Апоўдні 14 па старым стылі — 27 верасня па новым стылі леснянскім пастухом Аляксандрам Стэльмашчуком у самым гушчары лесу, на галіне грушы, была заўважана ікона ў незвычайным ззянні. З таго часу да іконы пачалі сцякацца шматлікія паломнікі і багамольцы. Факт знаходжання і ўшанаванне Леснянскай іконы Божай Маці ў многім падобны да гісторыі Жыровіцкай іконы Багародзіцы. Леснянская ікона таксама доўгі час знаходзілася ў маёнтку памешчыка, які прысвоіў яе сабе. Але Промыслам Божым пасля шматлікіх няшчасцяў, якія насылаліся на род гэтага чалавека, цудадзейная ікона была ўстаноўлена для шанавання ў суседняй ад Лесны вёсцы Букавіч. Падчас уніі ікона, нягледзячы на супраціўленне праваслаўных, была асвячона ў леснянскім касцёле. Пасля паўстання 1863 года ікону вярнулі праваслаўным.

Як сцвярджаюць даследчыкі, паселішча Лесна атрымала сваю назву з-за навакольных густых лясоў. Каля гэтага паселішча, дзе захаваліся рэшткі абарончых збудаванняў, т. зв. "акопы", часоў барацьбы славянскіх народаў з крыжакамі, у 1885 годзе быў заснаваны Леснянскі жаночы праваслаўны манастыр, у алтары якога знаходзілася цудадзейная ікона.

Леснянская ікона была ўпрыгожана сярэбранаю вызалачанаю шатаю з каштоўнымі камянямі. Ніша, дзе змяшчаўся цудадзейны лік Багародзіцы з Госпадам, акалялася дзвюма залачонымі выявамі херувімаў і мноствам разнастайных залатых і сярэбраных прывесак. Пры манастыры існавала кніга, дзе запісваліся шматлікія цудадзейныя выпадкі дапамогі і ацаленняў ад Леснянскай іконы. Багамольнымі прыхаджанамі ладзіліся традыцыйныя паломніцтвы на Нараджэнне Прасвятой Багародзіцы і ў дзень Святой Тройцы.



У 1920 годзе насельніцы манастыра імігрыравалі ў Сербію, а ў 1950-м — у Францыю ў прадмесце Праўемон, што на поўнач ад Парыжа. Захаваліся ўспаміны духоўных чад блажэннага Іаана Максімовіча пра асаблівае шанаванне святцілем Леснянскай іконы Багародзіцы (блажэнны архіепіскап вельмі любіў благаслаўляць гэтай іконай дзяцей і хворых).

Ікона З'яўлення Леснянскай іконы Прасвятой Багародзіцы доўгі час знаходзілася ў адным з найпрыгажэйшых храмаў рэспублікі — Свята-Нікольскім, потым была перанесена ў іншую, нанава збудаваную царкву горада Брэста — Свята-Ўваскрасенскую. У яе левым прыдзеле і ўсталявана зараз копія цудадзейнай Леснянскай іконы Божай Маці.

**Алена ЯСКЕВІЧ,**
**кандыдат філалагічных навук.**

## ПЕРШАЕ ПРЫЧАШЧЭННЕ

У касцёле святога Барталамея ў Вільні, дзе кожную нядзелю праводзіцца імша на беларускай мове, адбылося першае прычашчэнне вучняў Віленскай беларускай школы. Амаль год кожную сераду прыходзіла сястра Наталля ў школу, вучыла дзяцей рэлігіі: чыталі малітвы, рыхтаваліся да першай камуніі. Такая ўрачыстасць бывае раз у жыцці.

Прынялі прычашчэнне дзевяць вучняў: Быкава Ганна, Варановіч Каця, Вераценнікава Наташа, Кавальчук Таня і Наташа, Раманчук Алег, Суркоў Саша, Сасноўскія Дарык і Марык. Іх павіншавалі настаўнікі школы, беларуская грамадскасць Вільні, ксёндз Ян Шуткевіч, бацькі і сваякі.

**Леакадзія МІЛАШ.**



## АСОБА

Паніхідай у мясцовай Свята-Троіцкай царкве распачаліся ў Зэльве ўрачыстасці з нагоды 90-х угодкаў з дня нараджэння славутай беларускай паэткі Ларысы Геніюш. Упершыню ў гісторыі Беларусі Праваслаўная царква ўшанавала такім чынам памяць аб беларускім паэце. У свой час падобнае зрабіў Касцёл каталіцкі, калі ўшанаваў памяць Францішка Багушэвіча і беларуска-польскага паэта Уладзіслава Сыракомлі.

Спонсарамі мемарыяльнага знака з'яўляюцца нашы землякі-прадпрымальнікі Валянцін Дубатоўка і Віктар Каладзкі. Устаноўлена і была асвячона мемарыяльная шыльда на якой пазначана:

"На зямлі Беларускай мае
алтары"

✝

*Л. Геніюш (1910—1983)*
*паэтка і хрысціянка.*
*Ад удзячных нашчадкаў*
*на 90-я ўгодкі".*

Пасля асвячэння мемарыяльнага знака сакратар Гродзенскай епархіі айцец Анатоль у сваім казанні зазначыў, што Ларысу Геніюш Праваслаўная царква згадвае сёння не толькі як паэтку зямлі Беларускай, але як і хрысціянку, якая прыжыццёва заўжды прысутнічала на богаслужэннях, якая мела вялікую духоўнасць і несла яе праз свае творы да людзей, мацуючы праўду, ісціну жыцця на аснове праваслаўнай веры.

Кандыдат гістарычных навук, археолаг, пісьменнік Міхась Чарняўскі, які сябраваў з паэткай і заўжды быў жаданым госцем у яе хатцы, казаў, што калі ўспамінае Л. Геніюш, то чамусьці згадвае і Уладзіміра Караткевіча. "Яны ў мяне неяк побач, бо былі для моладзі 70-х і 80-х гадоў прарокамі. Яны — нашы лекары і нашы настаўнікі. Уладзімір Караткевіч вяртаў нам гістарычную памяць, а Ларыса Геніюш вяртала моладзі беларускую годнасць, яна вучыла нязломнасці, адданасці Бацькаўшчыне... Тыя, хто паспяхова прайшоў яе школу, перафразуючы Бартосіка з нядаўняй публікацыі "Нашай Нівы", ужо тады маглі замовіць кубачак кавы па-беларуску. Не саромеючыся, бо ведалі, што яны ў сваім доме, на сваёй Бацькаўшчыне..."

Нашага земляка Уладзіміра Ягоўдзіка ўражвала яе гасціннасць і шчырасць да простых людзей:

— Калі заходзіш да яе ў дом, то стары ганак заўсёды рыпіць. Стоячы ля гэтай магілы, я не адчуваю тлумнага пачуцця. Наадварот, аб ёй толькі светлыя ўспаміны. Памятаю яе гарэзлівай. Яна магла і рэзка жарт пусціць, нешта цікавае расказаць. І найбольш здзіўляла тое, як да яе ішлі простыя людзі, звычайныя вясковыя жанчыны. У мяне застаўся запіс 1981 года, калі яна расказвала пра свой род. І раптам рыпнулі дзверы, заходзіць жанчына-сялянка і пытаецца: "Ларыска, як ты тут?" Калі я прыходжу на гэта месца, то заўжды ўспамінаю яе паэму "Куфар"...

# Ларыса ГЕНІЮШ:

# «НА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСКАЙ МАЕ АЛТАРЫ»



На магілу паэткі былі ўскладзены кветкі.

На сцэне раённага Дома культуры, дзе працягваліся ўрачыстасці, вершы Ларысы Геніюш чыталі зэльвенскія дзеці.

Добрым ушанаваннем памяці Ларысы Геніюш была сустрэча зэльвенцаў і гасцей урачыстасці з беларускімі пісьменнікамі Вольгай Іпатавай, Анатолем Кудраўцом, Уладзімірам Мазго, Юркам Голубам, Міхасём Скоблам, Антанінай Хатэнка і іншымі.

У зэльвенскім касцёле Найсвяцейшай Тройцы таксама адбылася імша светлай памяці Ларысы Геніюш.

Шмат прыхільнікаў таленту паэткі сабралася ў нядзелю на зэльвенскіх могілках, дзе пад мармуровым помнікам яна знайшла вечны спачын.

Праваслаўныя святары — айцец Анатоль і айцец Аляксандр адслужылі ліцію.

Сваімі ўспамінамі падзяліліся тыя, хто асабіста ведаў Геніюш, хто спрычыніўся да яе творчасці, дапамагаў у выданні яе твораў.

Старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Вольга Іпатава, у прыватнасці, гаварыла: "Тое, што на пахаванні Ларысы Геніюш быў святар — гэта ўжо тады было ашаламляльна. Бо перад пахаваннем паэткі мяне і Адама Мальдзіса выклікалі ў Гродзенскі абкам партыі і сказалі, каб любымі сродкамі не дапусцілі яе пахавання па праваслаўным абрадзе. Але сталася так, як яна хацела. І зараз праз столькі гадоў, калі згадваю, то сапраўды хочацца плакаць ад такой страты. Але выходзяць кніжкі Ларысы Антонаўны, яе слова чытаюць, памятаюць. А гэта значыць, што яна з намі. І самы вялікі помнік для яе — нашы справы... Яна ўся свяцілася, была сама энергія, жыццё... Дарагая Ларыса Антонаўна, калі сёння тут столькі маладых, то і новае XXI стагоддзе будзе з вамі!"

І зноў былі шчымлівыя ўспаміны пра паэтку, яе жудасны лёс: мы тут, каб прычасціцца гэтай зямлі, каб сустрэцца з ёю, а тым, хто не ведаў Ларысу Геніюш, каб маглі ўявіць сабе, якой яна была. Але зразумець чалавека можна і па ягоных вершах, бо духоўная скарбніца, якая застаецца ў народзе, — гэта і ёсць самая вялікая адзнака паэта. Калі вершы паэта праз дзесяцігоддзі пасля яго смерці чытаюцца, калі чытае іх моладзь, то нам можна ганарыцца, што некалі мы дакраналіся да яе жыцця, а цяпер дакранаемся да яе спадчыны і нясём у будучыню яе святло для нашчадкаў.

Пісьменнік Анатоль Кудравец распавядаў пра тое, як ішло рэдагаванне першай кніжкі паэткі "Невадам з Нёмана", што выходзіла на Беларусі. Менавіта з гэтай кніжкі хатка Ларысы Геніюш у Зэльве стала дарагой і блізкай не для аднаго пакалення беларусаў. Ён зазначыў, што "гэты зборнік можна чытаць ад пачатку да канца. Кожны верш — гэта шэдэўр, гэта — трывога, гэта — боль, гэта — радасць за жыццё, за сваю родную зямлю..."

Паэт Уладзімір Мазго паведаміў, што літаральна месяц назад выдавецтва "Юнацтва" парадавала чытачоў новай кніжкай Ларысы Геніюш "Ластаўка". А падчас яго размовы з артыстам Аляксандрам Кацікавым паэт даведаўся, што ансамбль "Беларускія песняры" падрыхтаваў кампакт-дыск песень на вершы Ларысы Геніюш.

Штогод на Зэльвеншчыну прыязджае артыстка тэатра "Зьніч" Галіна Дзягілева. Зэльвенцы выдатна ведаюць яе па ўдалай пастаноўцы монаспектакля па "Споведзі" Ларысы Геніюш. Ад імя зэльвенцаў загадчыца аддзела культуры райвыканкама Г. Раманчук падзякавала і ўручыла кветкі Галіне Дзягілевай, якая дзевяць гадоў таму адкрыла для многіх гледачоў рэспублікі творчасць Ларысы Геніюш і на сцэне пранікнёна пражывае яе "Споведзь".

Не менш цікавымі і змястоўнымі былі выступленні Юркі Голуба, які апавядаў аб сяброўстве і перапісцы з паэткай, а таксама Антаніны Хатэнка, паэта і барда Эдуарда Акуліна, Язэпа Янушкевіча, Валянціны Аксак і іншых.

— Ёсць лацінскі выраз — "геніус лоцы", што азначае дух месца, — пачаў свой аповед наш зямляк, паэт Міхась Скобла, які шмат намаганняў прыкладае, каб літаратурная спадчына вялікай землячкі дайшла да чытача. — Адчуваеце, як прозвішча Геніюш сугучнае лацінскаму слову "дух"? Яна сапраўды, як дух беларускі, над усёй Беларуссю"... Ён паведаміў, што "самая вялікая кніга Ларысы Геніюш "Творы" (608 старонак) толькі што выйшла ў серыі "Беларускі кнігазбор" і ўжо сёння яе можна замовіць па тэлефоне ў Мінску: 220-70-27. Друкарня, на жаль, не паспела яе зрабіць, каб кніга патрапіла на свята. Нагадаў, што ў Зэльве ўлады так і не дазволілі паставіць ужо зроблены помнік Ларысе Геніюш і зараз ён у Саюзе пісьменнікаў.

Напрыканцы святкавання 90-х угодкаў удзельнікі юбілейнай імпрэзы мелі магчымасць прагледзець мастацкі фільм "Птушкі без гнёздаў" беларускага рэжысёра Віталя Дудзіна, прысвечаны паэтцы, які зняты па дакументальнай аповесці "Споведзь". Дарэчы, у 1992-м годзе планавалася зняць пяцісерыйны фільм, але праца над кінастужкай скончылася ў 1996 годзе, і зараз маем толькі адну серыю з некаторымі чужароднымі ўстаўкамі.

"Чытайце Ларысу Геніюш!" — гэтым заклікам Вольгі Іпатавай завяршылася святкаванне 90-х угодкаў з дня нараджэння Ларысы Геніюш.

* * *

На нацыянальным небасхіле была і застаецца зорка Ларысы Геніюш як паэткі і грамадскага дзеяча. Яна — асветніца, якая, гаворачы словамі Уладзіміра Караткевіча, апярэдзіла свой час. Яе чытаюць, друкуецца яе рукапісная спадчына, бо жыватворныя працэсы аднаўлення, як бы там ні было, але ідуць...

**Пётр ЖЭБРАК.**



«НЕПАМЯРКОЎНЫЯ-ІІ»

# ІНТУІЦЫЯ

Леанід МАРАКОЎ

здаецца, новы. На праверку, дружа, на праверку!

— Што? — павярнуўся чамусьці да мяне Юрык. Ён ужо не разумеў ні рускай, ні беларускай мовы.

— Замры! — стаміўся я ад торганняў свайго нявопытнага вадзіцеля. — Ні гуку! — І, павярнуўшыся да пана паляка, сказаў:

— Няма праблем. Адну хвілінку.

Адчыніўшы дзверцы, я выйшаў з машыны і падышоў да яго.

— Усё ў парадку, — падбадзёрваў я ўжо заадно і сябе. — Вось тэхпашпарт, а вось і мой пашпарт.

Узяўшы дакументы, пагранічнік памахаў імі, быццам пагразіў мне пальцам, і сказаў:

— Ад вашых дакументаў залежыць, колькі гадзін, а мо і сутак вы тут пратырчыце (па-беларуску палякі яшчэ неяк гавораць).

"Не пратырчым", — спакойна падумаў я, успамінаючы, як клаў у пашпарт новенькую дзесятку "зялёных"...

Як і трэба было чакаць, хвілін праз пятнаццаць актыўны і прынцыповы "адшуквальнік" крадзеных машын вярнуў мне дакументы, і мы рушылі на мытню.

Я ўсё не мог супакоіць Юрыка і вырашыў уздзейнічаць на яго больш жорстка:

— Калі ты, прыдурак, зараз жа не перастанеш калаціцца і пагранцы пачнуць "капаць" машыну, я цябе прыб'ю! Твае бясконцыя дрыжыкі зробяць нас жабракамі. Да цябе дайшло? Не? Нашы дзеці будуць галадаць. Твой Санька будзе га-ладаць! Зразумеў? І таго вялізнага "Lego", што ты яму купіў, ён не атрымае. Забяруць Санькаў канструктар. За даўгі забяруць...

Датумкаўшы нарэшце, што яго сын не дачакаецца таго, пра што марыў увесь першы цяжкі школьны год, па што нават жонка сказала па тэлефоне: "Не спіць і ноччу — чакае гэтага чортавага "Лега", Юрык нарэшце перастае дрыжаць і ўжо амаль спакойна кажа:

— Валера, я ўсё. Даруй. Нервы. Першы ж раз... Болей не паўторыцца. Я разумею, што падстаўляю, але зрабіць з табою нічога не магу. Страх паралізаваў...

— Добра, добра, галоўнае — супакойся, не торгайся. Тут і без цябе зараз клопатаў хопіць.

Польскі мытнік нюхам пачуў здабычу і пакіраваў да нас. Ішоў паволі, вытрымліваючы паўзу.

"Прашыты, — тут жа зразумеў я. — Такі ўсе жылы выцягне. Пачне: "Дзе пан рахункі (чэкі, значыць) схаваў?", а скончыць: "Ну, гэта вывозіць нельга..."

Дзеля перастрахоўкі я дадаў да ўжо пакладзенай у пашпарт дзесяткі яшчэ адну і выйшаў насустрач паляку.

— Пан — бізнесмен, — ляпнуў я далонню сябе па грудзях, — пан усё ведае. Няма праблем ("Так ужо і няма", — мільганула ў свядомасці, але я хуценька прагнаў ад сябе гэтую шкодную іронію). Вось дакумент.

— Давай, давай, паглядзім, ці добрыя ў цябе паперы.

Мытнік узяў пашпарт (як Юрык пасля палічыў: "пан нумар тры" і, крыху адступіўшы ад мяне, звяртаючыся да свайго калегі, дадаў:

— Смелы, сам сустракае...

"Пан нумар тры" разгарнуў на секунду пашпарт, пасміхнуўся, закрыў яго і сказаў:

— Так, добрыя дакументы, едзь да сваіх.

Ужо сядаючы ў машыну, я пачуў ад Юрыка:

— Глядзі ты, без "баксаў" адпусціў. Не разумею...

— Памаўчы лепей. Са страху нічога на бачыш, — даваў я ўжо спакойна Юрыку бясплатныя ўрокі. — "Баксы" ён дастаў адразу ж, яшчэ калі адступаў ад мяне...

Нашы сустракалі нас па-нашаму:

— Ну што там у цябе, расказвай, не саромейся, тут усе свае.

— Ды так, — пачаў я няпэўна, — дробязь розная...

— Дробязі я люблю, — сказаў наш. — Дробязь да дробязі — ужо, глядзіш, і не драбяза. Як кажуць, курачка па зярнятку...

"Гэты выцягне больш за паляка, — тут жа прыкінуў я. — Педант. Такі хоча не толькі грошы, але і нервы паказытаць. Садзюга, адным словам..."

Я падняў заднія дзверцы мікрааўтобуса, і мытнік адразу ж угледзеў маю падставу (яшчэ я сказаў бы — падказку):

— А, кветачка, — паказаў ён маімі дакументамі (чаму і гэтыя і тыя любяць махаць маім пашпартам?) на метровую пальму. — Гэта, братка, правозіць нельга. Пойдзеш у дванаццаты кабінет. Будзеш з нашымі дзяўчатамі разбірацца. А з імі, скажу табе, ох як цяжка гаварыць...

— Зямляк, не губі. "Кветачку" цёшча-змяюка заказала, заб'е ж...

Відаць, мае словы трапілі на спрыяльную глебу, бо наш нарэшце "ўбачыў" мяне і сказаў:

— Не ведаю, не ведаю...

— Браток, — зразумеў я, што пара браць быка за рогі. — За такую кветку мне нічога не шкада. — І, панізіўшы голас, дадаў: — Хоць дваццаткі...

— О, ты ведаеш, — таксама ціха падхапіў наш, — у школу я пайшоў адразу ў другі клас і таму лічбаў меней за трыццаць, на жаль, не ведаю...

"Няўжо так і праскочу на халяву?!" — падумаў я, развітваючыся з чарговымі дзесяткамі і сядаючы ў машыну...

Ды не. Вядома ж, не! Вось ён, шалахвост, бяжыць, родненькі.

— Паслухай, зямляк, дык я ж бакавых дзверцаў не адчыняў. Забыўся, спяшаючыся. А ты вельмі рады і не напомніў. Непарадак, зямляк, непарадак...

"Так, педант. Педант і садыст. Мог бы адразу ўсё прашчупаць..."

— Ну што тут яшчэ ў нас? — ужо з напускной строгасцю спытаў мытнік. — А-а, — убачыў ён маю другую падставу, — піўцо. О, баварскае, "іхняе", добрае, значыць. Цэлая скрынка? Ці не многа на двух?

— Няма праблем, — згадзіўся я адразу. — Для земляка — хоць палавіну...

— Правільна, — падхапіў педант. — Хлеба акрайчык і той папалам.

— Не губі, — зноў уключыў я дурня, — дарагі ж напойчык.

А сам сабе думаў: "Боўдзіла ты прагавітае. Уся гэтая скрынка табе і прызначана. Я піва яшчэ з першых рэйсаў у рот не бяру. Па мне што баварскае, што жыгулёўскае — адна вада. Маю нервовую галаву півам не падманеш".

Хвілін праз пяць да машыны падышоў салдацік і хуценька паклаў у прынесены з сабою чорны пакет шэсць бутэлек "іхняга".

— Вазьмі і сабе, — паглядзеў я на відавочна недаядаўшага першагодка. — Толькі схавай...

— Не, больш я з табою не яздок. Ну яго ў балота! Лепей зноў на родны завод... Я толькі глядзеў і то ледзь не памёр...

— Не бойся! Пакуль праблем няма. Змена, вядома, паршывая, аднак... — я прыкусіў язык, заўважыўшы, што Юрыкавы вочы робяцца круглымі. У тую ж хвіліну за спіной пачуў:

— Зямляк, дык я ж забыўся спытаць, што ўсё-такі вязеш з той далёкай Галандыі?

"Вось нарэшце, а то ўжо сапраўды рот разявіў, паддаўся спадзяванням, што на трох-чатырох дзесятках праскочу. Адразу дзвесце бухнуць ці са ста пачаць?" — хутка прыкідваў я. Уголас сказаў:

— Друг, як зямляк земляку (гаварыў я смела — крыху ж падмазаў, падаслаў, так сказаць, саломкі) скажу табе сумленна: машына адным смеццем забіта. Ёсць толькі дзве новыя штучкі, дзве такія невялічкія скрыначкі, — падняў я (так, каб бачыў толькі ён) рог падабранай на адной з вуліц Кёльна амаль новай пуховай коўдры.

— О, дык гэта ж "тэлікі". Так, але нешта велікаватыя...

— Ага, але не фірмовыя, не "Sony" або "Panasonic". Так, "плазматроны"... Кітай, адным словам...

— А-а, — замармытаў мытнік.

— Сто, — паспрабаваў я спыніць яго "аканне".

— Ну-у, — перайшоў ён на іншую танальнасць.

— За кожны, — давялося мне ўдакладніць.

— Як усё-такі шанцуе людзям, — адразу ж загарэўся зямляк. — Уяві, што было б, каб табе трапіў не я, зямляк твой родны, а які-небудзь юда...

"Ты і ёсць юда", —сказаў я сам сабе, а ўслых прамовіў:

— Сустрэць свайго заўсёды прыемна...

Прайшоўшы трэці раз мытню і чарговы (не памятаю, які) раз сеўшы ў машыну, я зноў пачуў стогны:

— Магіла! Усё! З дому болей ні кроку. На завод! Толькі на завод...

— Заткніся, абрыдзеў! Паміраць будзеш пасля! Паехалі. Бачыш, пагранец ужо махае, нябось, таксама піва хоча...

Неўзабаве разам з півам давялося расстацца і з апошняй дзесяткаю.

Наогул "гэта" каштавала пяцёрку, але купюркі такой не знайшлося, і давялося павысіць стаўку. З таго часу, між іншым, стаўка такой і засталася, і мала хто ведае, кім неспадзеўкі яна была падвоена...

Машына нарэшце вырвалася з "зоны распранання", і Юрык, крыху ачомаўшыся ад "гэтых кашмараў", паціхеньку пачаў (нарэшце!) паказваць сваё майстэрства вадзіцеля-аса (дзеля чаго, уласна, я і ўзяў яго: пасля мытні маглі аб'явіцца яшчэ адны "правяральшчыкі" — з вялікай дарогі). На блізкім святле ён трымаў належную сотку і нешта насвістваў. Адыходзіў нарэшце ад дрыжыкаў.

— Паслухай, Юрык, — настала чарга ўжо мне захвалявацца, — здаецца мне, што не хочаш мяне давезці цэлым да змяюкі-цешчы..

Юрык упершыню за ўсю паездку зарагатаў:

— Якая ж твая Вольга Уладзіміраўна змяюка? Дабрэйшага чалавека на ўсім белым свеце няма!

І Юрык смяяўся... Ён не ведаў, што мытня яшчэ не скончана, што яна яшчэ не дала "дабро". Наперадзе была "прымытненая" ДАІ, але я не хацеў яго засмучаць...

Юрык хоць і дасмяяўся амаль да слёз, усё ж угледзеў паласатае жазло даішніка, які вынырнуў немаведама адкуль.

— Што вязем? — пачулася нармальнае для гэтых мясцін пытанне.

— Піва, — адказаў я, выходзячы з машыны.

— Піва — гэта добра, — канстатаваў даішнік, гледзячы на задні нумар машыны. — О, землякі... Што ж, піва дык піва...

*

Ужо глыбокай ноччу "прымутнены" даішнік адкаркоўваў апошнюю бутэльку "іхняга". "У начной змене ёсць свае перавагі, — разважаў ён, пахмяляючыся, — днём так не расслабішся..."

У гэты самы час на адным з прамежкаў трасы Брэст — Масква катамаранам, быццам склееныя, імчалі дзве машыны. Нягледзячы на каварную серабрыстасць дарогі ад першага снегу, які толькі што выпаў, мікрааўтобус трымаў свае максімальныя сто шэсцьдзесят, але сіняя "дзевятка", што прыліпла да яго злева, сас-тупаць не хацела. Здавалася, вар'яты, якія сышліся ў гэтай смяротнай гонцы, няйначай паспрачаліся, хто хутчэй трапіць на неба. У імгненне яны прамільгнулі паўз бензакалонкі, і яе "гаспадыня", што выйшла падыхаць свежым паветрам, спачатку замерла, пасля войкнула:

— Божа, ад недасыпання ўжо лятаючыя аўтобусы мрояцца...

У гэты ж самы час за многія кіламетры адсюль, у двухпакаёвай "хрушчоўцы", не спаў, лежачы ў маленькім, яшчэ з дзіцячага садзіка ложку, і другакласнік Санька. Хлопчыку чамусьці здавалася, што, пакуль ён не спіць, змагаецца, казачны "Lego" набліжаецца да яго. І Санька трымаўся, як мог... "Не спаць, не спаць, не спаць", — зноў і зноў падказвала і гэтым дапамагала трымацца яго недзіцячая інтуіцыя... І ён усё цёр пальчыкамі вочы, якія зліпаліся... Маці сэрцам адчувала, што дзіця не спіць, але падысці, закалыхаць яго не рашалася: яна баялася, што і ўпоцемку Санька ўбачыць яе заліты слязьмі твар...

*

Пакарабачаныя левыя дзверцы мікрааўтобуса падказалі дзяжурнаму па КПП на ўездзе ў сталіцу, што з гэтай машынай не ўсё ў парадку. Махнуўшы люмінесцэнтным жазлом, ён адначасова ўзяўся і за аўтамат. Нягледзячы на моцны ранішні туман, вадзіцель мікрааўтобуса сігнал "спыніцца" ўбачыў і прытармазіў, але, калі даішнік стаў падыходзіць, паглядзеў на пасажыра побач.

— Усё нармальна, Юрык. Ты ж ведаеш, разбяромся. Адпачні. Усё, што мог, ты зрабіў, цяпер — мая чарга, — супакоіў вадзіцеля ягоны таварыш.

Накіроўваючыся да машыны, лейтэнант раптам прыпыніўся: па рацыі перадавалі паведамленне, і ён вырашыў, што гэтым з мікрааўтобуса яго чуць не абавязкова: "Сінія "Жыгулі", "Ваз 2109" ... не даязджаючы ... кіламетраў да пасёлка ... на мосце ... з хуткасцю, якая значна перавышала ... вылецелі на паласу сустрэчнага руху, урэзаліся ў металічную агароджу, прабілі яе і ўпалі ў рэчку..."

Лейтэнант зразумеў, пра якую сінюю "дзевятку" ідзе гаворка, і, выключыўшы рацыю, падышоў да машыны:

— Куды едзем, мужыкі?

— Дадому, камандзір, толькі дадому, — адказаў яму той, што сядзеў побач з вадзіцелем. — Пападарожнічалі, і хопіць. — Як кажуць, добрага пакрысе.

— Вы не зусім правільна зразумелі, — удакладніў даішнік. — Я хацеў спытаць, у які раён едзеце? Машына, бачу, мінская...

— На Чыгуначную, — сказаў вадзіцель чыстую праўду.

— А-а, зразумела, — адазваўся лейтэнант. — Толькі вось выгляд у вас вельмі нейкі, ведаеце...

— Ведаем, таварыш лейтэнант, ведаем, — мякка перапыніў даішніка пасажыр мікрааўтобуса, — як-ніяк, трэція суткі ў дарозе...

— Ды бачу, што знемагліся, хоць "трубачку" даставай. Добра, едзьце. Ды глядзіце, ля дому не разбіцеся, удвая крыўдна будзе. — І лейтэнант махнуў ім люмінесцэнтнаю палкаю.

Пачакаўшы, пакуль мікрааўтобус ад'едзе, ён зноў уключыў рацыю:

— Чатырыста дваццаты, я сто шосты.

— На прыёме.

— Ты зараз дзе?

— Там, дзе і быў, а што?

Сто шосты крыху памарудзіў з адказам, але, успомніўшы пра вымову і рапарт, які быў напісаны з-за гэтага, сказаў:

— Хвілін праз пяць-шэсць паўз цябе праедзе мікрааўтобус "Міцубісі", дык ты яго не чапай, няхай хлопцы едуць сабе спакойна.

— А што за хлопцы такія, што чапаць нельга?

— Добрыя хлопцы, чатырыста дваццаты, добрыя. Дарэчы, адчуваю, ты ад машыны адыходзіў...

— Тармазнуў тут аднаго, а што?

— Цікавую навіну празяваў...

— Гэта якую?

— Ды так... Здаецца, пра банду Баксёра ты больш ужо не пачуеш...

— Пра Баксёра, з-за якога цябе... Чаму ты так рашыў?

— Інтуіцыя, дружа, інтуіцыя...

## Аякс З «ФАУНЫ»



● **Раман КАБЯК**, БелТА.

Некалькі дзесяткаў гадоў працуе грамадскае аб'яднанне "Фауна" ў Брэсце, у якое ўваходзіць больш за 100 кінолагаў і іх выхаванцаў.

Цэнтр праводзіць выставы пародзістых сабак, падтрымлівае кантакты з кінолагамі з краін СНД, дакладна вядзе картатэку лепшых парод з прэстыжнай радаслоўнай.

НА ЗДЫМКУ: акрамя таго, што сабака Аякс (пароды ягдтэр'ер) Аляксея ПЕРКАЎЦА — уладальнік некалькіх залатых і сярэбраных медалёў, дыпломаў шматлікіх выстаў, ён яшчэ і цудоўны паляўнічы і сябра гаспадару.

## КРЫЖАВАНКА



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ. 1. Раздвоены на канцы вузкі доўгі флаг, які ўзнімаецца на мачце карабля. 3. Парашок з зярнятак асобай трапічнай расліны, які ўжываецца для прыгатавання напітку, а таксама сам гэты напітак. 6. Стройнае спалучэнне некалькіх гукаў; сугучнасць, сугалоссе. 9. Вяртанне куды-небудзь. 11. Паляванне, пры якім загоншчыкі крыкам прымушаюць звяроў бегчы на засаду паляўнічых. 13. Накладка ў форме звярынай морды або чалавечага аблічча, якую надзяваюць на твар у час маскарадаў, спектакляў. 14. Месца ў гарачай пустыні, дзе ёсць вада і раслліннасць. 18. Метка, знак, пастаўлены на чым-небудзь з пэўнай мэтай. 19. Той, хто карыстаецца абанементам. 20. Асоба, якая кіруе аркестрам, хорам. 23. Выдача чужога твора за свой або выкарыстоўванне ў сваіх працах чужога твора без спасылкі на аўтара. 25. Урачысты агляд (войск, спартыўных і іншых арганізацый). 26. Казачы афіцэрскі чын у царскай арміі, які адпавядаў чыну капітана ў пяхоце, а таксама асоба ў гэтым чыне. 30. Пацеркі, маністы, упрыгажэнне з жэмчугу. 31. Той, хто займаецца выкананнем на сцэне твораў мастацтва. 32. Група людзей, якая аб'ядналася з карыслівай мэтай, шайка. 33. Пачцівыя адносіны. 34. Фарба, якая здабываецца з марскіх лішайнікаў.**

**ПА ВЕРТЫКАЛІ. 1. Пасудзіна з разнастайнага матэрыялу, рознай формы і рознага прызначэння для кветак. 2. Пласкадоннае судна або плыт для пераправы праз раку. 4. Статуя, калона велізарных памераў. 5. Усякая выпуклая замкнутая крывая лінія без вуглавых пункціраў, напрыклад, эліпс. 7. Від пакарання: зняволенне з цяжкай прымусовай працай, а таксама месца такой працы. 8. Перашкода для доступу куды-небудзь; наогул перашкода. 10. Вузкая тканая ці плеценая палоска тканіны, якая выкарыстоўваецца для аздаблення адзення ці замацавання чаго-небудзь. 11. Адзенне, вопратка. 12. Той, хто займаецца рэкордамі. 15. Збор картак з якімі-небудзь даведачнымі матэрыяламі, размешчаных у пэўным парадку. 16. Задор, запал, захапленне. 17. Найвышэйшы ўяўны пункт неба над галавой наглядальніка. 21. Дзіцячая гульня, у якой хто-небудзь з завязанымі вачамі ловіць астатніх. 22. Раздзяленне. 23. Участак поля, які вылучаецца родам пасеву або іншымі якімі-небудзь прыкметамі. 24. Смеласць, рашучасць. 25. Жаданне, патрэбнасць піць. 27. Адкрыты прылавак для гандлю на вуліцы. 28. Зямное ўмацаванне: паглыбленне ў зямлі з брустверам для стральбы, хавання ад куль і снарадаў. 29. Штабель. Пакладзеныя адзін на адзін прадметы.**

**Склала Ірына БЕКІШ.**

## ДЗІЦЯЧАЯ ЧЫТАНКА

# УРОКІ ДЗЕДА-ЎСЁВЕДА: ГРЫБЫ

*ДОБРЫ ДЗЕНЬ, МАЕ ДАРАГІЯ СЯБРЫ! Я ЗНОЎ З ВАМІ.*

Амаль усё лета у нас на Беларусі ішлі дажджы. Многім яны надакучылі, але, як мне здаецца, толькі не грыбнікам. Бо грыбы пачалі расці, як на дражджах. Баравікі, шэрыя і карычневыя бабкі, краснагалоўвікі, жоўценькія лісічкі, ужо і летнія апенькі з'явіліся, шмат іншых грыбоў. Сапраўдны лясны склад раслiннага "мяса". І гэта без перабольшвання. У сушаных баравіках у два разы больш бялку, чым у ялавічыне, у тры разы — чым у рыбе. Экстракты і духмяныя рэчывы, што змяшчаюцца ў грыбах, павышаюць апетыт і станоўча ўплываюць на працэсы стрававання (адно не ешце на ноч: цяжкая ежа). А колькі асалоды ад іх збору! Так, грыбны сезон ужо даўно пачаўся, і працягнецца ён аж да лістапада. Так што бярыце кошыкі і спяшайцеся ў лес!

Але спачатку прачытайце мой слоўнік і парады грыбніка.

**Грыбная мясціна** — грибное место.

**Ядо́мы, прыдатны да яды грыб** — съедобный гриб.

**Неядо́мы, непрыдатны да яды** — несъедобный.

**Ядо́мыя грыбы:**

**Баравік** — белый гриб.

**Ба́бка, аба́бак, падбяро́завік** — подберезовик.

**Падасінавік, асавік, краснагало́вік** — подосиновик.

**Махавік** — моховик.

**Масля́к** — маслёнок.

**Ры́жык** — рыжик.

**Сырае́жка, сураве́жка** — сыроежка.

**Ваўня́нка** — волнушка.

**Лісічка** — лисичка.

**Апе́нька** — опёнок.

**Шампіньён** — шампиньон.

**По́рхаўка** — дождевик.

**Грузд** — груздь.

**Радо́ўка** — рядовка.

**Зялёнкі** — зеленки.

**Неядо́мыя грыбы:**

**Мухамо́р** — мухомор.

**Бе́лая пага́нка** — бледная поганка.

Складзіце з гэтымі словамі сказы або словазлучэнні. Запішыце.

### ПАРАДЫ ГРЫБНІКА

1. "Залатое" правіла грыбніка — бярыце толькі тыя грыбы, якія дакладна ведаеце, што яны ядомыя, сумняваецеся — не бярыце зусім.

2. Грыбы трэба зразаць нажом, каб не пашкодзіць грыбніцу, бо тады на гэтым месцы грыбы больш не будуць расці. Але не спяшайцеся зразаць, а перш палюбуйцеся, парадуйцеся гэтаму цуду прыроды.

3. Старых грыбоў лепш не браць. У працэсе старэння ў грыбах утвараюцца высокатаксічныя злучэнні.

4. Грыбы хутка псуюцца, таму іх трэба перабіраць, добра чысціць і сартаваць адразу.

5. Грыбы маюць здольнасць паглынаць з навакольнага асяроддзя і накапліваць таксічныя рэчывы, таму ўсе грыбы трэба адварваць, а адвар зліваць.

6. Бацькі павінны памятаць, што грыбы дзецям да трох гадоў зусім не трэба даваць.

А ведаеце, што можна збіраць грыбы, не выходзячы з кватэры? Як гэта? А вельмі проста, для гэтага існуе

### ГУЛЬНЯ «ГРЫБНІКІ»

Гуляюць 2—3 і болей чалавек. Выбіраецца вядучы, які завязвае астатнім вочы павязкаю, а сам растаўляе грыбы (муляжы грыбоў, іншыя прадметы, напрыклад, кубікі). Па камандзе ігракі пачынаюць у кошыкі (вядзерцы, мяшочкі) збіраць грыбы. Калі ўсе грыбы сабраныя, вядучы дае каманду: "Стоп". Затым ідзе падлік грыбоў. Хто больш назбіраў, той пераможца і становіцца вядучым. Гульня паўтараецца 2—3 разы.



А колькі разных страў можна прыгатаваць з грыбамі! Яечня з грыбамі, ікра грыбная, грыбы смажаныя, тушаныя, грыбны гуляш, рагу з агародніны і грыбоў, грыбныя бліны, грыбныя катлеты, пірагі з грыбамі... У кожнага народа свае стравы з грыбамі. Чувашы, напрыклад, ядуць кашу прасяную з грыбамі.

### ВОСЬ НЕКАТОРЫЯ РЭЦЭПТЫ

**ГРЫБНЫ ГУЛЯШ.** **Адвараныя грыбы (варыць не менш гадзіны) і цыбулю нарэзаць, абсмажыць крышку на алеі, дабавіць раздроблены струк перцу. Пасыпаць мукою, дабавіць тамат-пюрэ і смятану. Пры жаданні можна падліць трошкі вады. Заправіць соллю і перцам і тушыць яшчэ некалькі хвілін.**

**ШАМПІНЬЁНЫ Ў ВЯРШКАХ.** **Грыбы абдаць кіпенем, нарэзаць брускамі і пакласці ў каструлю. Нарэзаную паўкольцамі цыбулю падсмажыць на сметанковым месле, злучыць з шампіньёнамі, дабавіць некалькі сталовых лыжак вады, пасаліць, пасыпаць чорным перцам і тушыць да гатоўнасці.**

**Напрыканцы тушэння заправіць вяршкамі або рэдкаю смятанаю, сырымі яечнымі жаўткамі, сокам лімона.**

*800 грамаў грыбоў, 1—2 шклянкі вяршкоў або рэдкай смятаны, 2 сталовыя лыжкі сметанковага масла, 1 лімон, 2 жаўткі, соль, перац, зяленіва.*

**ГРЫБЫ З ЧАСНАКОМ.** **Цыбулю і часнок дробна нарэзаць. Растапіць на скарарадзе масла, абсмажыць цыбулю і часнок. Нарэзаць памідоры і дабавіць разам з прыправамі, соллю, перцам да абсмажанай цыбулі, усё перамяшаць.**

**Адвараныя грыбы дабавіць да агародніны. Накрыць і тушыць на слабым агні 15 хвілін.**

**Падаваць страву гарачай.**

*350 грамаў шампіньёнаў або іншых грыбоў, 1 цыбуліна, 2 зубчыкі часнаку, 50 грамаў масла, 400 грамаў кансерваваных памідораў, соль, перац.*

**ІКРА ГРЫБНАЯ.** **Сухія грыбы адварыць, дробна парэзаць, дабавіць трошкі абсмажаную на алеі цыбулю і тушыць 25 хвілін.**

**Дробна парэзаныя салёныя грыбы змяшаць з астуджанымі тушанымі грыбамі, дабавіць патоўчаны часнок, воцат, перац, зверху пасыпаць рубленым яйкам.**

*100 грамаў сухіх грыбоў, 200 грамаў салёных, 2 цыбуліны, 2 сталовыя лыжкі алею, 5 зубчыкаў часнаку, 1 яйка, воцат, перац.*

**Падрыхтавала**
**Святлана КАРПУЧОК.**

«Голас Радзімы»

**Галоўны рэдактар**
**Наталля САЛУК**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом "Радзіма".

РЭДАКЦЫЯ:
Намеснік галоўнага рэдактара **Галіна УЛІЦЁНАК.**
Адказны сакратар **Таццяна КУВАРЫНА.**
Рэдактар аддзела — член рэдкалегіі **Яўген ЛЕЦКА.**
Рэдактар аддзела **Алена СПАСЮК.**
Аглядальнікі **Юрась ЛЯШКЕВІЧ, Леанід МАРАКОЎ, Таццяна ХРАПІНА.**
Спецыяльныя карэспандэнты **Яўген КАЗЮЛЯ, Нэлі ПРЫВАЛАВА.**
Рэдактар-перакладчык **Святлана КАРПУЧОК.**
Стыльрэдактар **Ірына КАЗЛОВА.**
Тэхнічны рэдактар **Данута РАКАВЕЦ.**

**НАШ АДРАС:** 220005, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.

**ТЭЛЕФОНЫ:** (+375-17) 213-31-97 (тэл.-факс), 213-32-80, 284-76-56, 213-37-82.

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.
Падпісны індэкс у Беларусі 63854.
Тыраж 1 652 экз.
Зак. 2128.
Падпісана да друку 28.8.2000 г. у 12.00.

Газета набрана, зверстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).